*ВАЮЙ, НАРОДЗЕ, ЗА СВАЕ ПРАВЫ! – К. Каліноўскі*

ISSN – 5172

ЗА ВОЛЮ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ!



# ЗВАЖАЙ

Часапіс Беларускіх Вэтэранаў. Выдае Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў

ZVAZAJ – Veterans quarterly, published by Liaison Committee of Byelorussian War Veterans. *Canada Post: 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont., M4K 1C2*

*U.S. Post: Assn of Byelorussian American Veterans, 9 River Rd. Highland Park, N.J. 08904*

Год 11 Лістапад, 1985 № 4 (40)

## СІЛА АНТЫБЕЛАРУСКАГА РЭФЛЕКСУ

Ёсьць такі жарт, што Беларусь ляжыць у самым цэнтры Эўропы, але пра яе ніхто ня чуў. Як і ў кажным жарце, так і ў гэтым знойдзецца нейкая макулінка праўды. Што гэта за яна? Прыгадайма што сказаў пра гісторыю Напалеон: "Гісторыя – гэта хлусьня, на якую ўсе згадзіліся". Маецца на ўвазе прынятая, афіцыяльная вэрсія гісторыі, тая, што дамінуе ў адобраных пануючымі групамі кнігах, якой вэрсію вы можаце знайсьці ў школьным падручніку. Якраз афіцыяльная, чужая вэрсія гісторыі Беларусі ёсьць клясычным пацьверджаньнем Напалеонавай мудрасьці.

Прыгледзімся ёй бліжэй. "Гісторыя" Беларусі (сусьветна-прынятая вэрсія, калі пра такую сур'ёзна выпадае гаварыць), – гэта прашмугляваная на сусьветны навуковы рынак хлусьня Варшавы й Масквы пра шматпакутны й міралюбны беларускі народ. Гэта – вэрсія рабаўласьніка пра свайго раба, ката – пра сваю ахвяру, злодзея – пра абкрадзенага, бандыта – пра пакрыўджанага.

Ад дакананага злачыну – утварэньня фікцыі, ці, згодна Напалеона, хлусьні, – да рэфлексіўнага прыняцьця такое хлусьні ўсяго некалькі крокаў. Мы памятаем валуеўскае "не было, нет і не будзет". Яно крывавымі рубцамі выпісана на нашым целе. Між ураднікаў імпэрыяльнае Расеі ўтрываліўся антыбеларускі рэфлекс. Ён перадаўся наступным пакаленьням, жыве й цьвіце ў суседзяў. І сяньня навет думаючая бальшыня Расейцаў і Палякаў, калі будзе гаварыць пра паняволеныя народы, дык – заўважце гэта – пачне ад Украінцаў, згадае Балтаў, пасьля-ж, памінуўшы й не згадаўшы Беларусаў, успомніць каўказкія й азіяцкія народы. Прыкладаў антыбеларускага рэфлексу можна даць і больш. У людзях гэткіх загнязьдзіўся рэфлекс Паўлавага сабакі. Вы, як Беларус, якому на сэрцы ляжыць дабро нашага народу, не маглі гэтага не спасьцерагчы.

Найбольшая небясьпека для нас ад такога рэфлексу ёсьць у тым, што гэта хоць і прыдбаная, але ўжо амаль мэханічная рэакцыя (як прыкладна рух павека) на нейкі стумыл ці гук – у гэтым выпадку народ і краіну Беларусь, не як этнічную, але дзяржаўную адзінку.

У сьвятле катастрафальных насьледкаў самазабойчай каляніяльнай палітыкі Масквы й Варшавы, мы – добрыя й міралюбныя хрысьціяне, – спадзяваліся, што й між рабаўласьнікаў ёсьць інтэлектуалы, якія прадруць вочы, памогуць паняволеным народам, а ў іх ліку й нашаму.

На вялікі жаль... Із такім зубром-інтэлектуалам Салжаніцыным мне давялося кагадзе сустрэцца. Вядома-ж, не асабіста, але прачытаўшы наступныя дзьве кнігі (звыш 1200 бачын) ягонага "вузла" "Октябрь шестнадцатого". На 2-й бачыне гэтага нумару "Зважай" чытач знойдзе мой адкрыты ліст да Салжаніцына.

Калі лаўрэат нобелеўскай прэміі за літаратуру, геніі, адносіцца да нашага народу з антыбеларускім рэфлексам, дык што ўжо гаварыць пра якую разумовую дробязь? Аўтар "Архіпэляга-Гулага", сьцягу гістарычных раманаў і эсэ, тытан цяперашняй расейскай літаратуры ня толькі ілюструе Напалеонаву мудрасьць, але ёсьць і ахвярай злачыннага антыбеларускага рэфлексу.

Калі памыляюся, то як тады вытлумачыць, што ў ягоных "вузлах", асабліва-ж у "Октябрь шестнадцатого", дзе галоўная дзейнасьць адбываецца на землях Беларусі, на Беларусаў не знайшлося месца, яны зусім ня згадваюцца? У Магілёве, прыкладна, ягоны рэфлексам запраграмаваны зрок, спасьцярог і "гірлянды маларасійскай каўбасы", і ратушу "зь вежай, відаць, не бяз польскага ўплыву".. Толькі ані ён, ні ягоныя гэроі не заўважылі на сваей, пагвалчанай бандытамі зямлі, Беларусаў. Падобных прыкладаў ёсьць шмат больш.

Асабліва мы, выгнаньнікі, павінны грымаць у памяці, што вось такія інтэлектуальныя зубры, хоць і ня ўсе яны геніі, пазалазілі ў сусьветныя сьвятыні навукі, прашмуглявалі туды ня толькі ўтвораную Варшавай і Масквой хлусьню пра Беларусь, але й антыбеларускі рэфлекс.Гэты апошні загараджвае нам і нашай бацькаўшчыне "дарогу ў людзі". Шкода аграмадная. Што рабіць, каб змагацца з хлусьнёй і рэфлексам, – а ў патрэбе такога змаганьня няма сумлеву, – гэта ўжо іншая тэма, да якое, магчыма, вернемся.

*К. Акула*

# ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО СОЛЖЕНИЦЫНУ

Многоуважаемый Александр Исаевич!

Окончив недавно читать "Октябрь шестнадцатаго", я хотел бы поделиться с Вами некоторыми своими мыслями. Прежде всего, от души поздравляю Вас с очередным литературным триумфом и подтверждением неиссякаемой силы Вашего таланта. Ваш роман – большое событие и он, естественно, должен стать источником различных истолкований, комментариев и суждений.

Я по происхождению белорус; живу в Канаде с 1947 года. Пишу и печатаюсь. Издано пять моих книг – все на исторические темы – на белорусском языке и одна – на английском. Всегда с большим интересом читал Ваши, опубликованные в эмиграции, произведения. Особенно примечательны Ваши "узлы", т. к. период крушения Российской империи отображен в русской художественной литературе явно недостаточно. И когда заполнить этот пробел берется гений, работающий в условиях полной свободы творчества, читатель вправе ожидать от него большей глубины и широты видения, нежели от тех, кто не наделен таким дарованием (не говоря уж о лицах, пишущих по заказам известной партии). Надеюсь поэтому, что Вы правильно воспримите мои замечания, высказанные с доброй волей и неподдельным уважением к Вашему таланту.

Свойственное Вашей манере пренебрежение традиционной пунктуацией озадачивает читателя: нередко тяжело понять, где говорит автор, где Воротынцев или иной персонаж, а где идут их размышления. Фактически больше всего меня интересовало то, что Вы сказали о Белоруссии и её народе. Увы, я их в Вашем романе почти не нашел. Фронт идет через центр страны; раньше Ставка находилась в Барановичах, позднее – в Могилеве. Читатель узнает (чаще всего из разговоров солдат), что там живут "мужики и бабы"... ну и, конечно, помещики, которые почему-то все говорят... по-польски. В тексте двух томов книги (это около 1200 страниц) лишь в одном месте сказано, что солдаты говорят... "о белорусах".

Касаясь Вашего описания Могилева, надо полагать, что Вы не строили "потемкинские деревни". Можно поверить, что там была ратуша – "с башнею, видно не без польского влияния". Простите, но уж с поляками и их влиянием на Белоруссию Вы таскаетесь, словно кот с мышью. На торговой улице Вы (или Ваш герой) заметили "гирлянды малороссийской колбасы". Почему в центре губернского города Восточной Белоруссии "малороссийская колбаса"? Разве местной, белорусской не было? Вообще "малороссов" у Вас в книге предостаточно. Надо полагать, что в былое время это снисходительное или порицательное наименование применительно к украинцам бытовало среди российских имперских чиновников. В контексте Вашей книги удельный вес её – порицательный.

Очень много места отведено всегда вопиющим евреям; многократно упоминаются и другие национальности, интересы которых кто-то представлял в Думе. Достаточно их и в армии. А вот белорусов, которых под оккупацией Российской Империи проживало свыше пятнадцати миллионов, надо днем со свечой поискать... И это после Кастуся Калиновского, Богушевича, академика Карского, Богдановича, Купалы; после пятого года, когда у них уже была своя печать и политические партии для обновления своей государственности!..

Спрашиваеш себя невольно: неужели и Солженицыну присущ тот рефлекс относительно белорусов ("нет, не было и не будет!" – согласно Валуевской формуле), который бытует у многих русских единонеделимцев, равно как и среди "моцарствовых" поляков? Великий Некрасов когда-то заметил "изможденного лихорадкой больного белоруса". А ведь – осмелюсь сказать – он, наверно, не прошагал столько миль по дорогам Белоруссии, как Вы!..

Александр Исаевич! Мы – белорусы, так же "бодеамся с дубом", как и Ваш теленок. А дуб этот есть Ваш и иных создателей русской культуры рефлекс, что белорусов "не было, нет и не будет". Как иначе пояснить, что Вы не воспринимаете белорусов в качестве народа, который когда-то играл правительственную роль в Великом Княжестве Литовском; который в 1918 году создал независимую Белорусскую Народную Республику и боролся за неё?

Я почитаю Вас как гуманиста и гениального писателя и не хочу думать, что Вами руководит злая воля в отношении моего народа. Но я озадачен. Уверяю Вас, что тем же озадачены и многие мои земляки – так что мое письмо не есть лишь выражение моих "одиночных" дум. Россия на западе соседствует (это известно даже ученикам в школе) не с Польшей, а с порабощенной Белоруссией, которая когда-то была большим государством и которая стремится ныне к восстановлению своей независимости в будущем. И Вы всего этого изволили не заметить? – Здорово!...

Желаю Вам успехов в Вашей творческой и общественной миссии.

С уважением к Вам,

*Кастусь Акула*

Торонто, 15. 10. 1985 г.

---

*/ Просім выбачэньня ў нашых чытачоў, што ліст гэты з прычыны недахопу месца, ня можам даць у беларускім перакладзе. Спадзяемся, што для бальшыні ён будзе зразумелым.

# БЕЛАРУСКІЯ ВАЙСКОВЫЯ ФАРМАЦЫІ Ў ЛЕТУВІСКАЙ АРМІІ

(Заканчэньне. Пачатак гл. у № 2 (38)

Зь пераездам беларускага нацыянальнага актыву ў Горадню ў канцы сьнежня 1918 г. Горадня ажывілася й сталася цэнтрам увагі ня толькі нашых суседзяў, але й заходніх дзяржаваў, прадстаўнікі якіх засядалі ў Парыжы на Мірнай Канфэрэнцыі. Тут знаходзіўся ўрад БНР, тут быў беларускі міністар пры Летувіскай дзяржаве, тут дзеяла Беларуская Горадзенская Ўправа, якая ў лютым 1919 г. была пашыраная на Віленшчыну, Лідчыну й Аўгустоўшчыну, г. зн. на ўсе беларускія землі, што ўваходзілі ў склад тагачаснай Летувіскай дзяржавы і якая стала называцца Горадзенскай Краёвай Беларускай Управай. Тут былі шматлікія беларускія культурныя і грамадзкая арганізацыі: Цэнтральная Рада Горадзеншчыны, Настаўніцкі Зьвяз, Зьвяз Чыгуначнікаў, Хрысьціянская Грамада, камітэты Паштавікоў, Дарожных Работнікаў, Адзьдзел Уцекачоў, Духоўны Зьвяз, Беларускі Тэатр, Беларускі Хор, Саюз Каапэрацыі, Сялянскі Зьвяз, Арганізацыя Моладзі й інш.(12).

На Горадзеншчыне ствараюцца беларускія валасныя камітэты, адчыняюцца школы й клюбы, арганізуюцца прафсаюзы, настаўніцтва, бібліятэкі, ствараюцца гурткі моладзі, ладзяцца беларускія вечарыны, спэктаклі,

У Горадні выходзяць наступныя беларускія газэты: "Бацькаўшчына", "Беларускі народ", "Беларусь", "Родны край", "Зорка".

Але найважнейшай бадай падзеяй было тварэньне беларускага войска, (13) ядро якога было створанае яшчэ ў Вільні ген. Кандратовічам: 1-шы Беларускі Пяхотны Полк (1 БПП) і Штаб 2-га БПП, якія вымушаныя былі эвакуавацца зь Вільні ў Горадню ўпачатку студзеня 1919 г. Штаб 2 БПП быў аднак хутка расфармаваны. Фармаваньне-ж 1 БПП працягвалася ў Горадні дзякуючы стараньням палк. Лаўрэньцьева. Для падтрыманьня сувязі зь летувіскім Міністэрствам Абароны, 15.1.1919 г. у Коўна высылаецца афіцэр Казлоў. На наступны дзень, Міколу Дзямідаву, які 20-га сьнежня 1918 г. прыбыў у Горадню разам з групай ген. Кандратовіча і ўладамі БНР, даручаецца арганізацыя набору ахвотнікаў з правінцыі. 29.1.1919 г. абвяшчаецца загад мабілізацыі афіцэраў. Адначасна вядзецца арганізацыя беларускага швадрону кавалерыі й Беларускай Горадзенскай Камандатуры. Усё гэта было выклікана ня толькі патрэбай абароны перад бальшавікамі, што стаялі на лініі нямецкай акупацыі, але дзеля абароны перад польскай агрэсіяй ды перад шматлікімі бандамі польскіх легіянераў, якія ў сваіх уцёках зь Вільні на захад спыняліся ў вёсках і мястэчках Віленшчыны й Горадзеншчыны ды тэрарызавалі й рабавалі мясцовае беларускае насельніцтва. (14)

Ня гледзячы на лютую кампанію супраць тварэньня беларускага войска з боку апалячанага каталіцкага духавенства, буйных земляўласьнікаў і іншых прапольскіх элемэнтаў, набор даў пэўны кантынгент жаўнераў, зь якіх былі укамплетаваныя: згаданы раней 1 БПП, Асобны Батальён Горадзенскай Камандатуры (350 чалавек) і Беларускі Конны Эскадрон. Камандантам Горадні быў прызначаны пплк. Дзямідаў, які адыграў важную ролю ў вярбоўцы жаўнераў.

1-шы Беларускі Пяхотны Полк, спачатку пад камандай палк. Лаўрэнцьева, ад 15.3.1919 г. – палк. Езавітава, які яшчэ ў 1918 г. фармаваў беларускія вайсковыя адзьдзелы ў Менску, затым палк. Антонава, налічваў 800 чалавек. Ён складаўся із штабу, на чале якога стаяў палк. Шчэрба-Равіч і чатырох батальёнаў, камандзерамі якіх былі: пплк. Гайдукевіч, палк. Міхайлоўскі, палк. Кузьмін-Караваеў і палк. Волкаў. Сувязным між 1 БПП і летувіскім Міністэрствам Абароны быў пплк. Гедройць (15). Як 1 БПП, гэтак і Беларуская Горадзенская Камандатура, і Беларускі Швадрон Кавалерыі былі пазьней раззброеныя Палякамі (16).

Адначасна з арганізацыяй беларускіх вайсковых адзьдзелаў у Горадні, асобныя беларускія баёвыя групы тварыліся таксама і ў Коўні, дзе існавала Беларускае Вайсковае Бюро, створанае афіцэрам В. Казловым, і дзе не пагражала ўмяшаньне з боку Палякаў. Пазьней зь іх быў створаны Беларускі Батальён, які быў спачатку пад камандай Сьцяпана Січка, а затым Аляксандра Ружанцова. З гэтае групы бяруць пачатак усе беларускія вайсковыя групы, якія існавалі пры летувіскім войску і якія прымалі ўдзел у баявых дзеяньнях на фронце. Батальён меў свой друкаваны ворган, часапіс "Варта Бацькаўшчыны". Ён займаў баявыя пазыцыі на фронце каля Дзьвінску з 28.12.1919 г. Пасьля захопу гэтага гораду польска-латыскімі адзьдзеламі 13. 1. 1920 г., Батальён перайшоў у Шэдэрн. У красавіку ён быў пераведзены ў Рудмінішкі й займаў баявыя пазыцыі на летувіска-польскай дэмаркацыйнай лініі (17).

Іншы беларускі батальён, Асобны, камандзерам якога быў палк. Усьпенскі, стаяў спачатку ў Коўні. У ім былі тры роты пехаты, кулямётная рота, каманды – вышкаленьня, сувязі й конных разьведчыкаў ды гаспадарчая ці інтэнданцкая рота. Культурна-асьветную камісію батальёну складалі: лейт. Маёраў, шт. кап. Благавешчанскі, лейт. Дубле й праваслаўны капэлян прат. Іван Карчынскі. Пры батальёне існавала гістарычная камісія, заданьнем якое было зьбіраць экспанаты для Летувіскага Ваеннага Музэю. Беларускі Асобны Батальён выдаваў таксама свой часапіс пад назовам "Сьвятазар" (18).

У 1922 г. БАБ, якім у той час камандаваў маёр Разманас, стаяў у Вілкавішках, у 1923 г. – у Марыямпалі. Ім камандаваў лейт. Яськоў. У гэны час у батальёне засталося толькі 11 афіцэраў і адна, 3-я рота. Усе іншыя роты і каманды былі расфармаваныя. 25.4.1923 г. ён быў перафармаваны ў Беларускую Асобную Роту. Ейным камандзерам далей астаўся лейт. Яськоў. У роце было 6 афіцэраў і 203 жаўнеры. Рота перайшла ў мястэчка Бабрышкі, дзе заняла баявыя пазыцыі на

польска-летувіскай дэмаркацыйнай лініі (19).

Такім чынам з 1918-га да 1923-га году ў складзе летувіскага войска былі наступныя беларускія вайсковыя злучэньні: I Беларускі Пяхотны Полк, Беларускі Швадрон Кавалерыі й Горадзенская Беларуская Камандатура; 1 і 2 Асобныя беларускія роты, Беларускі Пяхотны Батальён, Беларускі Асобны Батальён і, нарэшце Асобная Беларуская Рота. Праз гэтыя адзьдзелы прайшло каля 2 500 чалавек: беларускіх афіцэраў, падафіцэраў і радавых (20).

Паводля летувіскага выданьня "Саванорыс" ("Ахвотнік"), якое выйшла ў 1929 г., толькі празь Беларускае Вайсковае Бюро ў Коўні ад 25.1.1919 г. да 5.3.1920 г. прайшло: 74 афіцэры і 14 вайсковых урадоўцаў, 316 падафіцэраў і жаўнераў ахвотнікаў, 7 мабілізаваных падафіцэраў і радавых, 360 ахвотнікаў, якія ня служылі раней у арміі і 17 рэкрутаў-навабранцаў.

Паводля іхнага паходжаньня – з 680 жаўнераў і падафіцэраў – 316 было з Ковеншчыны, 235 зь Віленшчыны, 49 з Горадзеншчыны, 17 з Віцебшчыны, 4 з Магілёўшчыны, 3 із Смаленшчыны, 3 із Сувальшчыны. З расейскіх губэрняў было 13, з украінскіх – 10, з польскіх – 9 асобаў (21).

Беларускія адзьдзелы летувіскага войска, супольна з чыста летувіскімі часткамі выконвалі і баявую службу да 1920 г., г.зн. да падпісаньня летувіска-савецкага дагавору, паводля якога дзяржаўная мяжа паміж Летувай і Савецкай Расеяй мелася праходзіць на лініі Вільня-Сьвянцяны, Александраўск, у кірунку на Дзьвінск і да чыгуначнай станцыі Абэлі. Яны разам у 1920 годзе баранілі былую сталіцу Вялікага Княства Літоўскага Вільню й асабліва змагаліся каля мястэчка Гедройцяў супраць дывізіі ген. Жэлігоўскага. Жаўнеры беларускіх вайсковых адзьдзелаў не шкадавалі ні свае крыві, ні свайго жыцьця. Яны добра вывязваліся із сваіх заданьняў, за што атрымалі належнае прызнаньне з боку летувіскіх вайсковых уладаў і летувсікага народу.

У змаганьні за незалежнасьць Летувы загінулі або памерлі ад ранаў 19 чалавек, 16 было раненых, 8 загінула бязь вестак. Узнагароды за баявыя вычыны атрымалі 52 беларускія афіцэры, падафіцэры й жаўнеры (22).

Варта прыгадаць, што ў незалежнай Летуве, у Ваенным Музэі імя Вітаўта ў Коўні існаваў і беларускі вайсковы адзьдзел. У ім захоўваліся памяткі беларускіх вайсковых адзьдзелаў пры летувіскім войску: здымкі, сьпіс забітых і раненых, сьпіс кавалераў "Крыжа Пагоні", партрэты беларускіх камандзераў (палк. Лаўрэнцьева, маёра Ружанцова, палк. Усьпенскага і інш.), рэстаўраваны сьцяг Беларускага Пяхотнага Батальёну, адозвы на летувіскай і беларускай мовах. У крыпце, на аднэй з мармуровых дошак, залатымі літарамі былі напісаныя імёны й прозьвішчы беларускіх жаўнераў, забітых у баёх і памершых ад ранаў. Адзін із "Званоў Змаганьня" (іх было ўсяго 35)- 26-ты звон на вежы Ваеннага Музэю імя Вітаўта, названы быў імем "Беларускага Жаўнера", у знак пашаны да тых, якія змагаліся за свабоду й незалежнасьць летувіскага народу (23).

*ЗНОСКІ:*

12. Пануцэвіч В. "Горадзеншчына ў нацыянальным руху ў 1918-1919г.г.","Бацькаўшчына", № 617-618, б. 6.
13. Тамсама, б. 7.
14. Тамсама, б. 7.
15. Тамсама, б. 7.
16. Пануцэвіч В. "Горадзеншчына...", "Бацькаўшчына", № 619-620, б. 6.
17. А.С. "Гістарычны Календар беларускіх аддзелаў Літ. Войска", "Крыніца", № 16(275) з 27.2.1940 г.; № 27 (736) з 5.4. 1940, № 39 (748) з 17.5. 1940 і № 40 (749) з 21.5. 1940 г.
18. Тамсама.
19. Тамсама.
20. Мгр. Ян Шутовіч, "Учасьце беларусаў у барацьбе за свабоду і незалежнасьць Літвы", "Крыніца", № 15 (724) з 23.2.1940 г.
21. "Ахвотнікі беларускіх частак Літоўскага Войска", "Крыніца", № 12 (708) з 29.12.1939 г.
22. "Беларусы ў барацьбе за незалежнасьць Літвы", "Крыніца", № 9 (706) з 15.12.1939 г.
23. Мгр. Ян Шутовіч, op cit. ; "Беларускі Аддзел Ваеннага Музэю Вітаўта Вялікага", "Крыніца", № 11(708) з 22/25. 12. 1939 г.

*В. Сяньkевіч*

****************************************************

## У 40-я ЎГОДКІ АДАРВАНЬНЯ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ АД БЕЛАРУСІ

*Сама, сама адзначыш свае межы*
*Без дапамог няпрошаных дзядзькоў.*
*Ты забярэш што да цябе належа,*
*Маці-Беларусь, спакон вякоў!*

Гэткімі словамі запратэставаў у сваім вершы "Беларусь" Зьмітрок Бядуля супраць падзелу нашае Бацькаўшчыны паміж Саветамі й Польшчай у сакавіку 1921 году. Бядуля-Ясакар быў не адзін. Падзел жывога цела Беларусі ў Рызе выклікаў гнеў і абурэньне спачатку ў Якуба Коласа, у вершы "Беларускаму люду", напісаным у 1921 г., а пасьля і ў Янкі Купалы, у вершах "На пагранічны", "На даўгінаўскім гасьцінцы", "У лесе" і "Каб...", напісанымі паэтам у 1926 годзе. Як бачым, правадыры беларускага нацыянальнага адраджэньня выразна акрэсьлілі сваё станозішча адносна гандлю чужынцамі нашымі землямі.

24 гады пасьля Рыскага дагавору тыя-ж самыя, – гаворачы словамі Коласа, –'цёмных дарог махляры" паўтарылі гэны ганебны акт, падпісваючы, бяз згоды беларускага народу, умову аб перадачы Беласточчыны камуністычнаму рэжыму Польшчы. Гэтым разам ня было ўжо Купалы, памёр таксама й Зьмітрок Бядуля, а духова зламаны Якуб Колас быў змушаны маўчаць. Сталінскі тэрор пастараўся вынішчыць усіх тых, хто змог-бы зарэагаваць, хто мог-бы сказаць:

*К чорту іх межы! К д'яблу граніцы!*
*Нашы тут гоні, бары!*

Звычайна савецкі акупацыйны рэжым Беларусі любіць адзначаць розныя ўгодкі, важнейшыя даты й падзеі.

Але тыя ўгодкі, што зьвязаныя з гвалтам над беларускім народам, ён стараецца прамоўчваць. Да іх належыць і дата падпісаньня ўмовы пра канчатковае ўстанаўленьне польска-савецкае мяжы ў 1945 годзе, угодкі перадачы Летуве Вільні ў 1939 г., Рыскі дагавор ды інш. Вось якраз з прычыны гэтага замоўчваньня мы й спынімся на першых зь іх – умове між СССР і Польскай Народнай Рэспублікай (ПНР) аб савецка-польскай мяжы, на аснове якой быў перададзены Польшчы горад Беласток з прылеглымі да яго акругамі. Пачнем ад кароткага гістарычнага агляду заходняй мяжы Беларусі.

Ад найдаўнейшых часоў, калі на тэрыторыі сяньняшняй Беласточчыны жыло ваяўнічае племя Яцьвягаў, якое ўвайшло ў склад нашага народу, і на працягу амаль усяе гісторыі беларускае дзяржавы – Вялікага Княства Літоўскага, заходняя мяжа нашае Бацькаўшчыны бегла па Нарве й Бугу. Гэтая мяжа быля ня толькі гістарычнай мяжой з Польшчай, але таксама мяжой моўнай, этнаграфічнай і культурнай паміж двума народамі на працягу прынамся тысячы гадоаў.

Першыя зьмены палітычнай граніцы паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім былі ўведзеныя ў 1569 г. калі беларускія землі па Бугу ўвайшлі ў склад Польшчы. Наступныя зьмены адбыліся ў канцы 18 ст., падчас трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 г. між Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй, калі Беласточчына й Сувальшчына дасталіся Прусіі, а рэшта беларускае тэрыторыі – Маскоўшчыне. Пры падзеле акупанты ня кіраваліся этнічнымі прынцыпамі, а толькі інтарэсамі эканамічнага й гэапалітычнага характару. Гэна заходняя мяжа, зь невялікімі адхіленьнямі, сталася пасьля асновай для так званай "лініі Курзона", а таксама для ўстанаўленьня польска-савецкай граніцы ў 1945 годзе.

У 1807 г., на аснове Тыльжыцкае ўмовы, Расея атрымала Беласточчыну й частку Аўгустоўшчыны, а Сувальшчына й Падляшша ўвайшлі ў склад Варшаўскага Княства. Вызначаная такім чынам Напалоенам мяжа між Польшчай і Беларусяйператрывала аж да 1921 году, г. зн. да Рыскага дагавору між Польшчай і Саветамі.

Калі-ж ідзе пра "лінію Курзона", пра якую мы ўжо згадалі, дык яна бярэ свой пачатак ад Мірнай Канфэрэнцыі ў Парыжы ў 1919/1920 г., калі заходнія хаўрусьнікі, з прычыны польскай агрэсіі на беларускія і ўкраінскія землі, рабілі спробу вызначыць мяжу польскіх прэтэнзіяў на ўсходзе. За ейную аснову была прынятая лінія трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай з 1795 году, як сярэдняя паміж польскімі прэтэнзіямі і запраўднай гістарычнай і этнаграфічнай мяжой на Бугу й Нарве.

Ідэя гэна аджыла зноў у 1939 г. у сувязі зь ліквідацыяй польскай дзяржавы. На аснове нямецка-савецкай умовы, падпісанай у жнівені ў Маскве між Молатавым і Рыбэнтропам, наступіў падзел былой польскай дзяржавы ўздоўж "лініі Курзона", выпраўленай на беларускім адрэзку на карысьць Беларусі, згодна зь ейнымі этнаграфічнымі межамі на захадзе. Варта адзначыць такі факт, што новая граніца амаль цалкам супадала зь гістарычнай мяжой ВКЛ з Польшчай, якая існавала да 1569 г. Адно Сувальшчыну забрала Нямеччына.

Умова гэта была зьдзейсьненая ў верасьні 1939 г., калі Чырвоная Армія заняла ўсю Заходнюю Беларусь. Тады былі зарганізаваныя выбары ў Народны Сход Заходняй Беларусі, якія – згодна савецкай працы "Фарміраваньне і разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі", выд. у 1958 г., – "прадэманстравалі імкненьне народу... да ўзьеднаньня Заходняй Беларусі зь Беларускай ССР", узьеднаньне, якое, "знаменавала сабой завяршэньне працэсу зьбіраньня беларускіх земляў у адзінай Савецкай сацыялістычнай дзяржаве. Горад Беласток, у якім сабраўся й прыймаў свае пастановы Нацыянальны Сход, быў прызнаны, такім чынам, паўафіцыяльнай сталіцай Заходняй Беларусі.

Устаноўленая ў 1939 г. граніца паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам была аднак вельмі кароткатрывалая, бо ў 1941 г. пачалася савецка-нямецкая вайна. Уся тэрыторыя Беларусі апынулася пад гітлераўскай акупацыяй. Але ўжо 27.11, 1943 г., на канфэрэнцыі ў Тэгэране, калі абмяркоўвалася пытаньне будучыні Эўропы, ідэя "лініі Курзона" выплывае ў сувязі з устанаўленьнем польска-савецкай мяжы.

Як выяўляюць дакумэнты, заходнія хаўрусьнікі – ЗША і Вялікая Брытанія – згаджаліся ў прынцыпе з этнаграфічнай мяжой з 1939 г. Канчатковая разьвязка пытаньня залежала выключна ад Масквы. Вось тут зноў выявілася запраўднае стаўленьне Крамля да жыцьцёвых інтарэсаў беларускага народу. Сталін вярнуўся да ідэі "лініі Курзона", бо яна ў свой час была створаная хаўрусьнікамі ды спрыяла яму ў ягоных перамовах з Чэрчылем і Рузвэлтам.

Такім чынам, ігнаруючы этнаграфічны прынцып, касуючы пастановы скліканага самымі бальшавікамі Народнага Сходу Заходняй Беларусі ў тым-жа Беластоку, Масква, – гэтым разам бязь ніякае гульні ў нейкае "народнае волявыяўленьне" й навет ня пытаючыся ўраду быццам-бы сувэрэннай БССР, – перадала Беласточчыну зь міліённым насельніцтвам камуністычнай Польшчы.

Стараючыся, з аднаго боку, задаволіць нацыянальна-імпэрыялістычныя амбіцыі некаторых польскіх колаў, а зь іншага, – прытрымліваючыся ведамае тактыкі "дзялі і валодай", – Сталін на Крымскай канфэрэнцыі вялікіх дзяржаваў згадзіўся на ўстанаўленьне мяжы паміж Польшчай і СССР на "лініі Курзона", перасоўваючы яе яшчэ ад 10-ці да 15-ці км., асабліва ў раёне Белавежы, на ўсход. Канчатковае пагадненьне было падпісанае Молатавым і Асубка-Мараўскім у Маскве 16.8.1945 г. бяз удзелу прадстаўнікоў ад беларускага савецкага ўраду.

Угодкаў гэтага ганебнага акту, як мы сказалі, у Савецкім Саюзе не адзначаюць. А не адзначаюць таму, што гэты гандаль беларускімі землямі выяўляе цынізм Масквы ў нацыянальным пытаньні і яшчэ раз паказвае на варожасьць крэмлёўскага кіраўніцтва да беларускага народу.

*В. Сяньковіч*

# МІТ ПРА ПРЫЧЫНЫ САВЕЦКАЙ ПЕРАМОГІ

Сутыкаючыся з савецкімі публікацыямі, прысьвечанымі гісторыі Другой сусьветнай вайны, заходнія ваенныя гісторыкі й аналітыкі нярэдка трапляюць у цяжкое становішча, бо элемэнты фактычнай інфармацыі аб дзеяньнях і стане савецкіх узброеных сілаў пераплятаюцца ў гэтых публікацыях з прапагандовымі мітамі. Апроч таго, у савецкіх гістарычных публікацыях часта адчуваюцца ноткі крыўды на заходніх калегаў. Заходніх спэцыялістаў дакараюць у тым, што, маўляў, навет пасьля сарака гадоў "Захад і далей схільны недаацэньваць выдатныя прыродныя якасьці рускага салдата".

Вельмі часта савецкія аўтары скардзяцца, што на Захадзе прымяншаюць колькасьць чалавечых жыцьцяў і матар'яльныя ахвяры, якімі Савецкі Саюз павінен быў заплаціць за чатыры гады вайны зь Нямеччынай. Але хіба найбольш лютыя абвінавачаньні ў адрас грамадзкасьці й навукоўцаў Захаду высоўваюцца савецкімі публіцыстымі з тэй прычыны, што заходнія аўтары так і ня здолелі ацаніць пазытыўна тыя, маўляў, аб'ектыўныя гіганцкія магчымасьці, якія, быццам, закладзеныя ў самой натуры сацыялістычнага грамадзтва. Якраз сацыялістычны патэнцыял, паводля савецкіх прапагандыстаў, і зьяўляецца галоўнай прычынай перамогі савецкіх узброеных сілаў над арміямі гітлераўскага райху.

Насамперш трэба адзначыць, што ніводная заходняя публікацыя не зьмяншае савецкіх стратаў у вайне. Наадварот – якраз заходнія навукоўцы ня раз падчырківалі, што афіцыйныя савецкія статыстычныя дадзеныя аб колькасьці ахвяраў вайны наўмысна заніжаныя. Ня робяць заходнія аўтары й спробаў зьмяншаць гэройства савецкага жаўнера. Назіраецца хутчэй адваротная тэндэнцыя. Заходнія гісторыкі ўсьцяж адзначаюць, што не зважаючы на нялюдзкія ўмовы існаваньня, франтавыя расстрэлы, карныя каманды, загараджальныя атрады, ворганы СМЕРШ і штрафныя роты, – маральна-баявыя якасьці савецкай арміі на працягу вайны заставаліся даволі высокімі.

Праўда, заходнія ваенныя спэцыялісты ня вельмі схільныя захапляцца стратэгічным майстэрствам савецкай ваеннай школы. Прыкладам, "ачарняльнікам" у вачох савецкай прапаганды стаўся амэрыканскі ваенны назіральнік Болдвін, які ня толькі выказвае, але й даказвае думку, што "ў савецкай стратэгіі падчас Другой сусьветнай вайны было мала бляску". Іншыя вядомыя спэцыялісты ў галіне гісторыі ваенна-марскіх апэрацыяў, камадор Гэрык і адм. Бэрк падкрэсьліваюць у сваіх дасьледаваньнях, што "ні савецкая стратэгія на моры, ні канкрэтныя баявыя дзеяньні савецкай флёты ня могуць быць падставаю для гордасьці".

Ня вельмі розьняцца ад ацэнак савецкай флёты й ацэнкі баявога ўкладу савецкіх ваенна-паветраных сілаў, калі ня лічыць неаспрэчных выпадкаў гэраізму паасобных лётнікаў. Амэрыканскія дасьледнікі Зіэмке і Маклоскі, дакладна вывучаючы гісторыю паветраных апэрацыяў падчас Другое сусьветнае вайны, прыйшлі да выснаву, што Савецкі Саюз ня ўнёс ніякага практычнага ўкладу ў зьнішчэньне з паветра нямецкай ваеннай прамысловасьці.

Савецкая-ж вэрсія гісторыі вайны настойвае на тым, што ўклад заходніх хаўрусьнікаў у перамогу над Нямеччынай надзвычай нязначны. У савецкіх публікацыях фактычна адмаўляецца патрэба Савецкага Саюзу ў хаўрусьніцкіх даставах узбраеньня, амуніцыі, паліва, харчаваньня, прамысловага абсталяваньня, аўтамашынаў і сыравіны. Высоўваецца навет цьверджаньне, што мангольская харчовая дапамога Савецкаму Саюзу ў гады вайны была больш значнай, чымся падвоз амэрыканскіх прадуктаў. Поўныя дадзеныя аб праграмах славутага ленд-лізу, зьмешчаныя ва ўрадавых даведніках ЗША й Вялікабрытаніі, у Савецкім Саюзе не апублікаваныя.

Савецкая гістарыяная міталогія наўрад ці можа задаволіць заходніх гісторыкаў, якія маюць магчымасьць усебакова вывучаць абставіны Другой сусьветнай вайны. Шмат якія спэцыялісты, уключна з гэткімі вядомымі на Захадзе дасьледнікамі, як Эрыксан, Лукас, Джоўнс, Солсбэры, Чэйні, Інфэльд і іншыя прыходзяць да выснаву, што адной з галоўных прычынаў перамогі СССР над гітлераўскім Райхам быў той факт, што Савецкі Саюз вёў гэту вайну цалкам ігнаруючы колькасьць людзкіх стратаў. Апроч таго, гэтыя дасьледнікі сьцьвярджаюць, што без даставак дапамогі ў рамках лэнд-лізу СССР ня здолеў-бы адбіць напады нацыстаў і пацярпеўбы апаразу ўжо толькі дзеля нястачы харчоў.

Заходнія спэцыялісты вылучаюць тры важныя фактары, безь якіх перамога Савецкага Саюзу была-б немагчымай. Папершае – гэта, фактычна, бязьмежныя людзкія рэзэрвы; падругое – вялізарны абсяг тэрыторыяў, на якіх разгортваліся ваенныя дзеяньні; і патрэцяе – багацьце нетраў і іншых рэсурсаў. Аднак, падкрэсьліваюць заходнія дасьледнікі, усе гэтыя тры фактары ня маюць ніякага дачыненьня ні да сацыялізму, ні да камуністычнай партыі, і дзеялі, як адзначае амэрыканскі гісторык Роўз, якраз "наперакор, а ня дзякуючы іхнаму ўмяшаньню".

*РС/уц*

****************************************************

## ФОНД "ЗВАЖАЙ"

Ад 21-га жніўня да 21-га кастрычніка сёлета атрымана на "Зважай" падпіскі й ахвяры: Я. Сяўковіч – 19.00 дал., А. Лашук – 9,50, Я. Жучка – 9.50, М. Наумовіч – 9.50. Ю. Сенькоўскі – 35.20, А. Зданкавіч – 6.50, Я. Міхалюк – 6.50, Карчма Торынгтон у Лёндане – 3.80, Б. Лішчонак – 20.00, Ч. Найдзюк – 6.50, Н. Грэбень – 26,00, М. Махнач – 39.00, Ч. Ханяўка – 6.50 В. Акавіты (з продажы) – 9.00, К. Акула (з продажы) – 12.00.

***Разам – 218.50 дал. Усім вельмі дзякуем***

# І НЯ ЗВОНЯЦЬ У АФГАНІСТАНЕ ЗВАНЫ ХАТЫНІ...

*Зьмяшчаем галоўную часьць артыкулу пра злачынствы бальшавікоў у Афганістане. Артыкул напісала Разанна Кляс, дырэктар Інфармацыйнага Цэнтру пра Афганістан пры "Фрыдом Гаўз" у Нью Ёрку.*

Афганістан ператвараецца ў могільнік-маўзалей.

Саветы і іхныя саўдзельнікі ў злачынствах ня толькі глумяць і забіваюць тысячы палітычных зьняволеных.

Мала таго, што нападаюць на цывільных – тых, што на вясельлі, сялян на полі, людзей на рынках, – ці наўмысна зьнішчаюць шпіталі й мэдпункты.

Мала таго, што прасьледуюць, абстрэльваюць і вынішчаюць павольныя караваны ўцекачоў – найбольш жанчын і дзяцей, – якія сьпяшаць у бясьпечны прытулак у Пакістане ці Іране.

Мала таго, што паляць збожжа, зьнішчаюць склады зярна, выбіваюць хатнюю жывёлу, каб быў голад, або зьнішчаюць арашальныя вадаправодныя сыстэмы ды пашыраюць атруты на полі, каб зрабіць зь іх пустыні, насьледуючы Чынгіс Хана.

Я гавару пра наўмысную савецкую палітыку, згодна якой высылаюцца савецкія наземныя сілы ў вёскі Афганістану, каб насілавалі, рабавалі, палілі й мардавалі у найбольш жахлівы спосаб ды пакідалі зьнявечаных мёртвых як перасьцярогу для ўцалелых. Сыгнал зусім ясны: паддавайцеся, ўцякайце або жахліва гіньце!

Гэта ня прыпадковыя рэйды ашалелых ваякаў. Гэта сыстэматычныя кампаніі разьні, якія вядзе савецкая, а не афганская армія, у якой бяруць удзел спэцчасьці.

Доктар Жулье Фурно ёсьць дырэктарам праграмы Афганістану ў "Лекарах бязь Межаў" (ЛБМ) – француская гуманітарнай арганізацыі, якая тайна высылала мэдыкаў у Афганістан ад 1980 году.

Доктар Фурно, маладая жанчына, якая правяла часьць свайго дзяцінства ў Афганістане й ведае тутэйшыя мовы, ад 1980 году зрабіла тысячы міляў пехатой і конна, правяраючы працу ЛБМ. Сёлета ў травені, калі была яна ў паўдзённай правінцыі Пакція, яна распытвала ўцалелых пра вялікую масакру, што зрабілі Саветы ў далёкай паўночнай правінцыі Баглян. Доктар Фурно старанна запісала пачутае.

7-га сьнежня адзьдзел савецкіх жаўнераў уварваўся ў вёску Більвом ат Іса Кэль, шукаючы маладых дзяцюкоў, каб забраць іх у афганскую армію. Падчас вобыскаў саветчыкі згвалцілі некалькі жанчын, а пры адыходзе закідалі хаты гранатамі. Лёкальная група Мушахэдынаў, пачуўшы пра гэта, зрабіла засадку й заатакавала савецкі канвой ля Чардары. Шэсьцьдзесят чалавек групай камандаваў Шэр Махамэд Хан. Зьнішчылі шэсьць бальшавіцкіх танкаў, адзін наляцеў на міну. Пасьля гадзіннага бою Шэр Махамэда паранілі ў твар, адзін Мушахэдын быў забіты, а шэсьць раненых.

Пяць дзён пазьней, 12-га сьнежня, каля гадз. 11-й, чатыры сотні савецкіх жаўнераў абкружылі чатыры вёскі ў ваколіцы, дзе адбылася тая засадка й гадзінны бой. Танкі прыехалі каля 2.30. Савецкія жаўнеры сыстэматычна ўрываліся ў кажную хату, забіваючы ўсіх прысутных, уключна з жанчынамі й дзецьмі, часта стрэлам у галаву. Тром цяжарным жанчынам распаролі жываты. Хаты пусьцілі з агнём і пажары трывалі пяць дзён. Жаўнеры зрабавалі грошы й цэннасьці, якія вяскоўцы ім давалі для выкупу жыцьця.

Камандзер Мушахэдынаў, Махамэд Валі, даведаўшыся пра савецкі злачын, прыбыў із сваім адзьдзелам каля чацьвертай гадзіны. Падчас змаганьня з Расейцамі, уцалелыя людзі паўцякалі зь вёсак. Назаўтра раніцай Махамэд Валі сабраў хурманкі й на кажную палажылі па 20 ці больш забітых жанчын і дзяцей ды адправілі, у суправодзе старэйшых, у горад Кундуз. Жыхары Кундузу, із жахам прыгледзеўшыся ахвярам масакры, пазакрывалі крамы й выйшлі з пратэстам. Паўстаньне паднялося ўва ўсіх раёнах гораду. Да людзей далучыліся й афганскія камуністы Парчамісы. Пад канец дня бальшавікі разагналі дэманстрацыі а трупы ахвяраў павыкідалі за горад. Мушахэдыны падабралі іх, завезьлі ў свае вёскі й пасьля некалькіх дзён раскопак і пошукаў на пагарэлішчах налічылі й пахавалі 630 трупоў.

Докатр Фурно атрымала поўны сьпісак ахвяраў масакры, у якім адзначаны й век кажнага зь іх. Агульны лік замардаваных – 631, два разы больш чым у чэскай вёсцы Лідычэ, дзе нацысты вымардавалі толькі мужчынаў. Карэспандэнты Ройтара й Агенцтва Франс Прэс узялі ў уцалелых у Пакістане інтэрвю, але рэпартажу ў прэсе ня было. Агенцтва Франс Прэс, на пытаньне ў Парыжы адказала, што рэпартажу не атрымала, але каб і мела дык ня выкарыстала-бы.

Калі прыйшлі першыя весткі пра нацыстоўскае забойства Жыдоў у Эўропе ў 1942 годзе, ім таксама ня верылі. Весткі назвалі неправеранымі, няспраўджанымі, а іхныя крыніцы былі названыя ненадзейнымі й гістэрычнымі. Дзесяць год назад ніхто ня верыў што адбываецца ў Камбоджыі (Кампучэі), пакуль ня вымардавалі камуністы палову народу. Цэлы час чуем, што, маўляў, якая шкода, што ня ведалі. Але-ж, спазьніліся.

Чуем лёзунг: "Ніколі больш!" Пры чым тут "ніколі"? Яно вунь адбываецца цяпер, на нашых вачох. Ужо вымардавалі больш мільёна Афганаў і забойства нявінных прадаўжаецца.

***The New Holocaust, National Review, 4.10.1985***




У такім выглядзе, зарослая пустазельлем, пазначаная на здымку белай рысай, была на Кракаўскім Ракавіцкім могільніку магіла Алеся Гаруна.

У Кракаве, на Ракавіцкіх могілках, спачывае Алесь Гарун. Памёр ён 28-га,а пахаваны 30-га ліпеня, 1920 г. Вайна закінула яго далёка ад родных ніў, якія вельмі любіў, ад мілай Бацькаўшчыны, за якую жыцьцё аддаў. Летась, пасьля доўгіх пошукаў, магілку ягоную знайшоў выкладчык Ягайлаўскага ўнівэрсытэту Алег Латышонак. Пра гэта пісаў ён у Беластоцкай "Ніве" з 17.3. 1985 г. Вось чым канчае свой артыкул Латышонак:

"Потым удалося мне яшчэ трапіць на кнігу кватэры. Адказны працаўнік могільніка пацьвердзіў, што магіла ніколі ня была раскапана, і нанёс прозьвішча Прушынскага на плян, на якім дагэтуль магіла Гаруна была адзначана як невядомая.

Заказаў я тры тачкі зямлі, Вальдэк – таблічку, Яцэк і Марэк прывезьлі зь лесу белую бярозку і зрабілі зь яе крыж, які мы з Мар'юшам паставілі ў сьвята памершых на магілцы паэта. Запалілі сьвечкі. Невядома хто ўбіў адразу ў зямлю памятны сьцяжок. Столькі зрабілі мы з польскімі сябрамі. Думаю, добра было-б больш. Колькі гэта ніхто не наведаў Алеся, кветак яму ня прынёс, сьвечкі яму не запаліў. Год за годам дажджы размывалі ягоную магілку, ажно засталася яму толькі жменька чужое зямлі. Няўжо вечна яму гаравацъ?"

Апошні нумар "Зважай" зьмясьціў пра Алеся Гаруна вялікі артыкул. Гэты выдатны паэт і змагар заслужыў на ўдзячнасьць наступных пакаленьняў. Прапануем памагчы нашым суродзічам паставіць на ягонай магіле добры помнік. Нашым былым вайскоўцам прыгадваем, што Алесь Гарун быў і арганізатарам войска БНР, а таму ён-жа і адзін з нас. У 1987 годзе будуць сотыя ўгодкі ад нараджэньня гэтага выдатнага сына нашага народу й нам трэба парупіцца, каб да часу юбілею на магіле Алеся Гаруна ў Кракаве быў пастаўлены помнік. Зборка ахвяраў на яго распачалася сёлета ў Лёндане ў канцы верасьня, падчас сьвяткаваньняў 500-х угодкаў ад нараджэньня Ф. Скарыны. Ахвяры просім прысылаць на "Зважай" і зазначыць у лісьце, што гэта ахвяра на помнік на магілу Гаруна ў Кракаве.

## ЛІСТА АХВЯРАЎ НА ПОМНІК НА МАГІЛУ ГАРУНА

У амэрыканскіх далярах: К.Акула – 20.00, А. Адамовіч – 100.00. *Разам – 120.00*

У францускіх франках: М. Наўмовіч – 100.00.

У канадыйскіх далярах: Д-р. Раіса Жук-Грышкевіч – 20.00, Я. Жучка – 20.00, І.Сурвіла – 10.00, *Разам - 50.00*

У ангельскіх хунтах: Ю. Сенькоўскі – 10.00, В. Сянькевіч – 10.00, А. Арэшка – 10.00, А. Лашук – 10.00, Я.Дамінік – 20.00, Я. Сяўковіч – 10.00, М. Яськевіч – 1.50, Асіповіч – 5.00, А. Ражанец – 10.00, К. Глінскі – 5.00. *Разам – 91.50. Усім шчыра дзякуем.*